# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ—СІМВАЛ

## ПАЭЗІЯ ЖЫВАЯ, ЯК САМО ЖЫЦЦЁ




9 снежня сталася апагеем святкавання сотых угодкаў з дня нараджэння Максіма Багдановіча, аднаго з самых слаўных сыноў Бацькаўшчыны, геніяльнага паэта, мысліцеля, бліскучага літаратурнага крытыка. Вечар адбыўся ў тэатры оперы і балета, які стаіць на вуліцы, што носіць цяпер імя Максіма Багдановіча. На ёй у невялікім дамку, які размяшчаўся насупраць таго месца, дзе цяпер оперны тэатр, паэт з'явіўся на свет. Радасная і справядлівая падзея перайменавання вуліцы Максіма Горкага ў вуліцу Максіма Багдановіча адбылася ў дзень юбілею песняра, а навіна гэта стала вядома грамадскасці на ўрачыстым вечары ў яго гонар.

Па рашэнню ЮНЕСКА 100-годдзе Максіма Багдановіча адзначалася ва ўсім свеце. Падзеі, звязаныя з юбілеем, праходзілі ў Расіі, Прыбалтыцы, на Украіне, у Парыжы і Нью-Йорку. І, канешне, на радзіме песняра—у Беларусі.

Адкрываючы вечар, прысвечаны Максіму Багдановічу, вядомы паэт і грамадскі дзеяч Ніл Гілевіч адзначыў, што мы святкуем юбілей аднаго з самых слаўных сыноў Бацькаўшчыны ў год, калі вырашаецца лёс нашай «краіны-браначкі». Запаветы і ўрокі М. Багдановіча яшчэ ніколі не ўспрымаліся з такой удзячнасцю, як сёння, калі збываецца векавечная мара беларускага народа аб свабодзе і незалежнасці. Яго паэзія жывая, як само жыццё, і абысціся без яе проста немагчыма. Дасканала выхаваны на вялікай рускай культуры, на класічнай сучаснай літаратуры свету, на народнай творчасці Беларусі, Багдановіч стаў узорам гарманічнай еднасці ўсяго гэтага багацця, зазначыў Ніл Гілевіч. Менавіта таму ён зразумелы і ўшанаваны сёння ў многіх краінах свету. [illegible]ак прызнання М. Багдановіча была яркая прамова генеральнага дырэктара ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА), вядомага іспанскага вучонага і грамадскага дзеяча Федэрыка Маёра, госця нашай рэспублікі.

— Рэспубліка Беларусь,—сказаў ён,—зрабіла мне вялікі гонар, запрасіўшы адсвяткаваць стогадовы юбілей з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Ён пражыў толькі 26 гадоў, але застаўся ў выніку сваёй геніяльнасці ў гісторыі культуры і літаратуры. Творчасць Багдановіча, асабліва яго зборнік «Вянок», напоена любоўю да людзей і сваёй зямлі — краю балот, лясоў і ціхіх рэк. Не аддзяляючы культуру свайго народа ад агульнаславянскай, Багдановіч быў абаронцам сваёй роднай беларускай мовы, садзейнічаючы тым самым захаванню душы свайго народа. Але Максім Багдановіч быў адкрыты і для іншых культур. Ён перакладаў на сваю мову творы рускіх, украінскіх, польскіх, сербскіх і іншых аўтараў, класічных паэтаў Авідзія і Гарацыя, немца Гейнэ, француза Верлена. Багдановіч тварыў на карысць узаемаразумення паміж народамі і салідарнасці паміж людзьмі. Ён заклікаў людзей гаварыць адной мовай — мовай свабоды і міру. Ён спадзяваўся, што свабода і мір, як і зоркі, якімі ён захапляўся, заззяюць новым святлом у ствараемым свеце. На вечары выступілі Фердынанд Найрайтэр з Аўстрыі, нямецкамоўны беларусіст, перакладчык Багдановіча на нямецкую мову, і Алесь Барскі, прафесар Варшаўскага універсітэта. Ф. Нойрайтэр прачытаў славутую «Пагоню» ва ўласным перакладзе на нямецкую мову.

Лірычным і светлым было выступленне-ўспамін пляменніцы Багдановіча Таццяны Кунцэвіч-Сільваноўскай, якая расказала, як захоўвалася заўсёды ў сям'і памяць пра слаўнага сваяка, як ганарыліся яны тым, што ёсць у іх сапраўдны паэт.

Пра Багдановіча сказалі сваё слова вучоны Алег Лойка, паэты Васіль Зуёнак і Рыгор Барадулін, запрошаны на святкаванне з Украіны паэт Раман Лубкіўскі. Госці з Яраслаўля і Ніжняга Ноўгарада Юрый Вярбіцкі і Вячаслаў Собалеў расказалі, як беражліва ахоўваюцца ў іх гарадах месцы, звязаныя з імем беларускага паэта. І сёння сваёй паэзіяй, сваім кароткім жыццём ён з'ядноўвае абодвы славянскія народы.

Максім Багдановіч надзіва сучасны. Як усе геніі, ён прадбачыў будучыню і прадказваў яе свайму народу. Зараз мы маем магчымасць правяраць і адчуваць прадказанні і таму прыносім яму столькі малітоўнай пашаны, любові і ласкі. Аднак трагедыя паэта з яго смерцю на 26-м годзе жыцця не скончылася, трагічны лёс усё яшчэ лунае і над яго спадчынай. Сапраўднае адкрыццё Багдановіча наперадзе. Яно прыйдзе да яго тады, калі прыйдзе і да яго Бацькаўшчыны — Беларусі.

**НА ЗДЫМКУ: урачыстае пасяджэнне ў акадэмічным тэатры оперы і балета, прысвечанае юбілею М. БАГДАНОВІЧА.**



**У Мінску, у Траецкім прадмесці, адкрыўся літаратурны музей паэта. Падзея гэтая стала цэнтральнай у калейдаскопе сустрэч, выставак, паэтычных вечароў, прысвечаных юбілею М. Багдановіча. На адкрыццё музея прыйшлі мінчане, прыехалі госці з многіх гарадоў рэспублікі, а таксама з Яраслаўля і Ніжняга Ноўгарада, з Польшчы. Сярод гасцей — сваякі паэта.**
**Экспазіцыя музея раскрывае жыццёвы і творчы шлях Максіма Багдановіча, расказвае пра багатую гісторыю беларускай зямлі, яе культуру. Толькі дзякуючы неацэннай спадчыне, пакінутай нашаму народу Міколам Гусоўскім, Сымонам Будным, Васілём Цяпінскім, Францішкам Багушэвічам, Янкам Купалам, магла ўзысці над Беларуссю паэтычная зорка Максіма Багдановіча.**
**НА ЗДЫМКУ: адкрыццё музея М. Багдановіча.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## ХРОНІКА

**Ускладаннем кветак да помніка паэту, чытаннем яго вершаў пачалося літаратурнае свята на ВДНГ Рэспублікі Беларусь. Удзельнікі свята пазнаёміліся з выстаўкай выданняў М. Багдановіча, пачулі песні роднай зямлі.**

* * *

**З праграмай «Вянок» па творах М. Багдановіча ў зале Белдзяржфілармоніі выступіў Беларускі дзяржаўны ансамбль «Песняры» пад кіраўніцтвам У. Мулявіна. Канцэрт прайшоў з вялікім поспехам, як і выступленне з гэтай жа праграмай у Нью-Йорку, у штаб-кватэры ААН.**

* * *

**9 снежня ў Акадэміі навук Беларусі адбылася юбілейная асамблея з удзелам вучоных-багдановічазнаўцаў.**

* * *

**28 лістапада ў Вільнюскім універсітэце прайшла канферэнцыя, прысвечаная юбілею М. Багдановіча. Наладзілі яе асацыяцыя беларусістаў у Літве і кафедра рускай літаратуры. У праграме канферэнцыі прагучалі даклады і выступленні.**

* * *

**30 кастрычніка ў штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Францыі падчас 26-й сесіі Генеральнай канферэнцыі гэтай міжнароднай арганізацыі прайшоў вечар, прысвечаны памяці М. Багдановіча. Ад імя генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Федэрыка Маёра вечар адкрываў кіраўнік аддзела інфармацыі грамадскасці, швейцарац Алэн Маду. Ён адзначыў важнасць гэтай падзеі для «Дома ЮНЕСКА, што адкрыты для ўзаемаўзбагачальнага культурнага і інтэлектуальнага абмену паміж краінамі і народамі». Слова пра Максіма Багдановіча сказаў на вечары кіраўнік дэлегацыі Рэспублікі Беларусь А. Вярцінскі.**

**Пасля са сцэны гучалі вершы нашага паэта. Барыс Сачанка чытаў іх у арыгінале, а французская актрыса Жанна Габэй — у перакладзе на французскую мову.**

**Вечару быў прысвечаны чарговы нумар «Юнеска-прэс».**

* * *

**4 лістапада ў бібліятэцы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны памяці М. Багдановіча.**

# НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

## ВЕРШ ЯГО ПРОСТЫ І СУРОВЫ

Паэзія Максіма Багдановіча, як вядома, вылучаецца сваёй адметнасцю з усіх адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя. У яе сваё дыханне, свой голас, свая рытміка, свой пульс, свая сістэма вобразаў і адчуванняў. Безумоўна, па-свойму самабытная і адметная Коласава і Купалава паэзія, Цётчына і Буйлянчына, Гартнага і Леўчыкава... Але ўсе яны пачыналі, як бы мовіў Максім Багдановіч, пад Бурачка. І гэта сапраўды так. Кніжкі Мацея Бурачка, а пра гэта можна пэўна казаць, абудзілі да творчасці вялікую кагорту беларускіх пісьменнікаў ці, калі не сказаць агулам, прывялі ў рух усю нашу дакастрычніцкую літаратуру, культуру. Ну а ці паўплываў Багушэвіч на самога Максіма Багдановіча? Безумоўна. Але толькі як выток, як крыніца, як імпульс да творчасці, як абуджэнне нацыянальнай свядомасці. Ва ўсім астатнім М. Багдановіч ішоў сваім шляхам, паглядаючы на еўрапейскія ўзоры паэзіі.

З творчасцю Францішка Багушэвіча пазнаёміўся рана. Па сведчанні Максімавага бацькі, у хатняй бібліятэцы былі Багушэвічавы творы. «Ад казак ён перайшоў да песняў, загадак, прымавак і іншага... і гэтак дайшоў да мастацкіх твораў Дуніна-Марцінкевіча і Бурачка». Было гэта прыкладна ў 1901—1902 гадах. У гэтую пару, паводле слоў Адама Ягоравіча, Максім пачаў свае спробы пяра на беларускай мове. Думаецца, Багдановіча ў першую чаргу ўразілі Багушэвічавы прадмовы. Водгулле гэтых ураженняў гучыць у артыкуле «Белорусское возрождение». «В предисловиях к своим книжкам Богушевич едва ли не первый явился проповедником всестороннего национального возрождения белорусов, показывая, что они представляют отдельный, самостоятельный народ».

Ідэал культурнага адраджэння стаў пуцяводнай зоркай і для Максіма.

Да творчасці Францішка Багушэвіча Максім Багдановіч звяртаўся неаднойчы. Давайце гэты зварот прасочым храналагічна, балазе ён не зойме шмат месца.

1910. У нататцы «І. Неслухоўскі» пры аглядзе творчай спадчыны беларускіх пісьменнікаў 80—90-х гадоў мінулага стагоддзя Максім згадвае і Багушэвіча як Бурачка, творы якога, на думку Багдановіча, як і іншых тагачасных пісьменнікаў, да народу «бадай што не даходзілі, а апольшчаная і абруселая беларуская інтэлігенцыя пачытвала іх з усмешкай, як нешта мілае і ў той жа час бадай што ні для чаго не патрэбнае. «Надта ж яно міла думаць думкі і, як дзеці, пушчаць пузыр з мыла...»

1911. У артыкуле «Глыбы і слаі», разглядаючы творчы почырк Янкі Купалы, Максім Багдановіч пісаў: «Пачаў ён з шурпатых вершаў, напісаных «пад Бурачка», залішне расцягненых, слаба апрацаваных з боку формы і мовы, яны ўвесь час перапявалі некалькі адных і тых жа тэм».

У тым жа артыкуле, аналізуючы мастацкую палітру беларускай літаратуры, Багдановіч зазначаў: «Прыглядаючыся да навейшай беларускай пісьменнасці, можна лёгка прыкмеціць адно цікавае і карыснае з'явішча — яе аднакалёвы слой, што зліўся з сотняў пісьменнікаў, наследнікаў Багушэвіча...»

1912. З ліста ў рэдакцыю «Нашай нівы» за 14 лістапада 1912 года—дата з Праслаўскага паштовага штэмпеля — даведваемся, што Максім Багдановіч з пісьменнікам Багацкім з Кіева падрыхтаваў зборнік перакладаў беларускай прозы—125 старонак—на рускую мову. Сярод іх і тры вядомыя апавяданні Ф. Багушэвіча — «Сведка», «Дзядзіна», «Палясоўшчык». Лёс гэтых перакладаў невядомы. А цікава было б паглядзець, як Багдановіч справіўся з Багушэвічавай прозай. Яна ж там скрозь афарыстычная. Паспрабуй, перакладзі прыкладам такое: «А той Лабок, каб ваша ведалі,—дык чысты лабок. Як пойдзеш касіць, дык сцімбіркі толькі дзілінкаюць ля касы ды казельчыкі скачуць...»

1915. У артыкуле «Беларусы», надрукаваным у часописе «Национальныя проблемы», Максім гэтак ахарактарызаваў Багушэвіча: «В 80—90-х годах выдвинулись Я. Лучина и Бурачок (Ф. Богушевич), писатели народнического склада, а последний—с выразительной национально-радикальной идеологией».

1915—1916. У артыкуле «Белорусское возрождение», надрукаваным спачатку ў часопісе «Украинская жизнь» № 1, 2, а затым перадрукаваным з адбіткі гэтага часопіса ў кнізе «Белорусское возрождение» М., 1916, сам артыкул напісаны ў ліпені 1914 года, Багдановіч дае больш шырокія звесткі пра Багушэвіча, а таксама сцісслую, але ёмістую характарыстыку яго творчасці: «Его произведения, глубоко проникнутые национальным и демократическим духом, не блещут изяществом отделки, но зато отличаются большой энергией выражения. Стих его прост и суров; изредка эта суровость сменяется юмором...»

Апошняя Максімава развага для нас вельмі важная. Яна нам яскрава паказвае, што Максім прыняў ад Багушэвіча, а што не. Разважыўшы над яго творчасцю, улічыўшы патрэбы народнага жыцця, патрэбы ўсёй беларускай літаратуры, ён пайшоў сваім шляхам, набліжаючы нашу літаратуру да еўрапейскага гучання. А вось у публіцыстыцы ён ішоў за Багушэвічам. Як і яго папярэднік, Максім Багдановіч клікаў народ не пакідаць «свае гаворкі, сваіх песняў, сваіх звычаяў—свайго кроўнага, спрадвечнага, беларускага. Не адракомся, не забудзем, не кінем на глум: будзем шанаваць, бараніць. дзецям сваім аб тое запаведаць!»

Сугучнасць з Багушэвічавымі прадмовамі відавочная. Багдановіч называў Багушэвіча «интересным белорусским деятелем». І гэтым, думаецца, сказаў усё.

Уладзімір СОДАЛЬ.





**У Доме літаратара прайшоў вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У ім прынялі ўдзел беларускія пісьменнікі і паэты, шматлікія паклоннікі паэзіі нашага славутага земляка. Гучалі вершы паэта ў выкананні акцёраў мінскіх тэатраў. Маладыя літаратары і кампазітары прысвяцілі Багдановічу свае творы.**
**НА ЗДЫМКУ: гучаць вершы і песні на словы Максіма Багдановіча.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

Максім БАГДАНОВІЧ

## КРАЮ МОЙ РОДНЫ! ЯК ВЫКЛЯТЫ БОГАМ...

**Краю мой родны! Як выкляты Богам —**
**Столькі ты зносіш нядолі.**
**Хмары, балоты... Над збожжам убогім**
**Вецер гуляе на волі.**

**Поруч раскідаліcь родные вёскі.**
**Жалям сціскаюцца грудзі! —**
**Бедные хаткі, тапалі, бярозкі,**
**Усюды панурые людзі...**

**Шмат што зрабілі іх чорные рукі,**
**Вынясьлі моцные сьпіны;**
**Шмат іх прымусілі выцярпець мукі**
**Пушчы, разлогі, нізіны.**

**Кінь толькі вокам да гэтага люду —**
**Сціснецца сэрцэ ад болю:**
**Столькі пабачыш ты гора усюды.**
**Столькі нуды без патолі.**

**Песьня пяе, як удовіна сына**
**Янку каханьне згубіло:**
**Там, дзе панура схілілась каліна,**
**Беднаго хлопца магіла.**

**У гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе**
**Сэрцэ навін не пачуе.**
**Сціснуло горэ дыханьне ў народзе,**
**Горэ усюды пануе.**

**Хваляй шырокай разлілось, як морэ,**
**Родны наш край затапіло...**
**Брацьця! Ці зможэм грамадзкае горэ!!**
**Брацьця! Ці хваце нам сілы!!**

## КРАСА, І СВЕТЛАСЦЬ, І ПРАСТОР

**Памяць пра Максіма Багдановіча беларускія мастакі ўшаноўваюць вялікай выставай. Вернісаж, які адкрыўся 6 снежня, суправаджаўся тэатралізаваным спектаклем. У ім прынялі ўдзел танцавальныя і музычныя калектывы, а таксама артыстка Т. Мархель, якая выконвала народныя песні, і У. Пузыня з сынам. Ва ўсіх залах Рэспубліканскай мастацкай галерэі ў Палацы мастацтва размясціліся больш за тысячу твораў жывапісцаў, графікаў, скульптараў, прыкладнікоў. Творы на юбілейнай выставе прысвечаны не толькі жыццю і творчасці Максіма Багдановіча. Шматлікія палотны на ёй — пра нашу рэчаіснасць, пра духоўнае адраджэнне Беларусі і асэнсаванне творцамі нацыянальнай гісторыі.**

**Свята-юбілей Багдановіча, якое стала агульнанацыянальным, нясе з сабой не толькі ўрачыстасць, але і ставіць шмат пытанняў аб нашай культурнай спадчыне. Яно — падстава зноў нагадаць аб праблемах. звязаных з прафесійным і народным мастацтвам, з адсутнасцю ў многіх беларусаў гістарычнай памяці і нацыянальнай самасвядомасці.**
**НА ЗДЫМКУ: В. ЯНУШКЕВІЧ. «Зорка М. Багдановіча». (Бронза).**



